© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1746) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 29 КАСТРЫЧНІКА 1989 г. Цана 150 зл.


Новыя вершы

## НАДЗЕЯ

Дождж заліваў
палеткі і сады.
Зямля патрэсканымі вуснамі
глытала ваду,
А на галінцы калыхаўся
мокры шпак.
І так чакаў ён
на пагоду.
Ну, як жа тут
пароўну шчасцем абдзяліць?
Не цяжка ў гэтым
нават Небу памыліцца —
Калі адны хацелі б воду піць —
другім гарачы промень
сонца сніцца.
Але ўсё мінае на зямлі
і кожнай з'яве
час назначыў хтосьці.
Няхай жа не сумуе
мокры шпак —
І да яго загляне сонца ў госці!

*Алена Анішэўская*



*Фота Я. Целушэцкага*

Вось і прыйшла на Беларусь вялікая радасць, споўнілася доўгачаканая мара ўсіх свядомых беларусаў — на нашу Бацькаўшчыну 11 верасня прыехаў Данчык — Багдан Андрусішын, вядомы ў Амерыцы і Заходняй Еўропе беларускі спявак! Цудоўны крынічны голас яго, мілагучную мову і беларускія песні ў выкананні Данчыка ўжо колькі гадоў слухалі на Беларусі ў аматарскіх запісах, а таксама ў беларускіх перадачах Беластоцкага радыё на ультракароткіх хвалях а 10.00 гадзіне штонядзелі.

# ЁН — БОГАМ ДАНЫ ЧАЛАВЕК!

Слухалі з заміраннем сэрца, са слязьмі на вачах і ўспыхвалі ў застылых душах землякоў пачуцці замілавання і любові да ўсяго свайго, роднага, матчынага, і адраджалася беларускасць там, дзе здавалася, што нішто ўжо не зможа ўзняць, ажывіць, бо разам з Данчыкам пачыналі спяваць душы людзей. Голас і талент спевака Данчыка здольны высечы „іскры з халодных каменняў“ чалавечых сэрцаў, як пісаў некалі ў прарочым вершы „Песняру“ наш паэт Максім Багдановіч. Слухалі Данчыка на аўтарскіх канцэртах-вечарах у Мінску, Полацку.

22 верасня спявак прыехаў у старадаўнюю Гародню. Каля 700 чалавек у вялікай зале палаца „Юнацтва“ былі зачараваныя спеўным голасам Данчыка, яго знешняй абаяльнасцю і высокай унутранай культурай. Сапраўды, прарокамі былі тыя, хто ахрысціў яго Багданам, так, ён — Богам нам даны Чалавек! Які талент выспеў на нашай беларускай ніве!

За адзін толькі гэты вечар Данчык адрадзіў столькі беларускіх душаў, узняў так высока пачуццё беларускай нацыянальнай годнасці, што за цэлыя гады гэтага не ўдаецца зрабіць розным нашым таварыствам, творчым саюзам.

Цяжка ўразумець, чаму столькі часу нас, беларусаў, абкрадвалі, не ладзілі сустрэчаў з Данчыкам гадоў 10 назад, бо гэты спявак — наш агульны нацыянальны гонар, жывы скарб, моцная і гаючая крыніца нацыянальнага адраджэння.

Колькі маладых сэрцаў магло б пазбыцца духоўнай пустэчы, нацыянальнага нігілізму, або выйсці з атупляючай стыхіі „масавай“ нацыянальнай бясполай культуры?



Песні Данчыка блізкія сэрцу беларуса, дзе б ён не жыў. „Зорачкі“ і другія песні гучалі ў Амерыцы над Гудзонам, у Беластоку, у Менску, Полацку і з не меншай узрушанасцю былі выкананы і ўспрыняты ў старадаўняй Гародні над Нёманам.

Разам з Данчыкам у гэтым вечары бралі ўдзел спевакі Лявон Барткевіч і Сяржук Сокалаў-Воюш. Цёпла віталі прысутныя і іх, а таксама маці Данчыка спадарыню Юлію і гарадзенскую паэтку Дануту Бічэль-Загнетаву. Была шчырая размова з усімі спевакамі, многа даў адказаў на пытанні Данчык.

І знакам вялікай удзячнасці і радасці на працягу ўсяго вечара былі шчырыя воплескі, слёзы радасці, бел-чырвона-белы сцяг і кветкі, кветкі, кветкі Данчыку...

Узрушаныя слухачы і пасля канцэрту не маглі адразу развітацца са спевакамі, бралі аўтографы, а Сяржук Сокалаў-Воюш па шматлікіх просьбах працягваў спяваць свае песні на плошчы перад палацам, дзе прайшоў цудоўны „аксамітны“ і сапраўды „летні вечар“.

Вельмі хочацца верыць і спадзявацца, што Данчык у хуткім часе зможа спяваць зноў на зямлі беларускай, што стане яму сілы і замілавання да беларускага адраджэння. Усе мы павінны спяшацца рабіць гэта. Бо няма часу больш чакаць і спадзявацца, плачучы на лёс. Пазнаўшы наяву моц і крыштальную чысціню голасу Дан-

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

ВЯРТАЕМСЯ ДА НАРОДНАГА

# З патрэбы жыцця і сэрца

З Валянцінай Дарашкевіч мы сустракаемся ў сонечны вераснёвы дзень на вуліцы яе роднай вёскі Меляшкі, што каля Гарадка.

Як заўсёды, шчырая ўсмешка не сыходзіць з яе маладжавага твару. Вельмі энергічная, заўсёды моцна занятая, кудысьці і на гэты раз спяшаецца.

— Вяртаюся ад сваіх падапечных. Можа не ведаеце, я ж закончыла курсы сясцёр ПЦК, дапамагаю тром старэйшым жанчынам: прыношу патрэбнае ім з крамы, ваду, дровы. Вось і сёння зрабіла, што трэба, і бягу дадому: у мяне ж яшчэ і пункт скупкі гародніны і садавіны. А цяпер сезон.

Валя — кіраўнік меляшкоўскага беларускага гуртка. У мінулым годзе гурток адсвяткаваў сваё 15-годдзе. Было вельмі ўрачыста, з гасцінай, багата. Увесь гарадоцкі калектыў віншаваў іх з юбілеем. Меляшкоўскі гурток адрозніваўся заўсёды тым, што базаваў выключна на фальклоры роднай вёскі. Жанчыны толькі пачыналі сваю працу ад „Мікітавага лапця". А потым ставіліся ўжо толькі сцэнкі з вясковага жыцця: вяселле, адведкі, дажынкі, вечарынкі і іншае. З мясцовымі песнямі рэгулярна жанчыны выступаюць у конкурсах беларускай песні.

— У нашым калектыве спяваюць старэйшыя жанчыны. Але мы не паддамося старасці, — жартуе Валя. — Спяваць будзем аж да смерці, як наша сяброўка Насця Карповіч.

Насця была душою калектыву, цудоўна спявала да сваіх апошніх дзён. Яе смерць была вялікай стратай для ўсіх.

Беларускі гурток вельмі зблізіў жанчын. Яны сталі адной сям'ёю, шчыра хацелася ўсё рабіць разам — і працаваць, і праводзіць свой вольны час.

У вёсцы з даўніх часоў існуе звычай, што кожная дзяўчына з малых гадоў вучылася рукадзеллю, ткацтву дываноў і ходнікаў, шыццю. І сёння зараз жа пасля Калядаў, у Мясаед, як тут называюць карнавал, у хатах расстаўляюць кросны. Беларускі гурток натхніў жанчын рабіць гэта супольна. Неяк муж Марыі Казёл зрабіў новыя кросны. Жанчыны сышліся разам і па чарзе пачалі ткаць свае дываны. У сяброўскай суполцы працуюць разам чатыры жанчыны: Марыя Казёл, Ніна Лавіцкая, Галена Дарашкевіч і Валя Дарашкевіч.

— Тчэм учатырох кожны дыван, — расказвае Валя. — Дзве перабіраюць, трэцяя — ніткі вывівае, чацвертая падае, падтрымоўвае, калі трэба. Усім ёсць што рабіць. І работа супольна ідзе спарней, і параіцца можна адносна ўзору, падбору нітак.

— А ці спяваеце ў час работы?


Валянціна Дарашкевіч і два яе дываны.

— Калі робім прасцейшы ўзор, здараецца, і паспяваем. Часцей пры пасяках. А калі перабіраем узоры — тады ўжо не да спеву: трэба лічыць, пільнаваць узор, каб не памыліцца.

Валя выцягвае з шафы адзін за адным каляровыя дываны.

— Вось мой першы, ткала яшчэ будучы дзяўчынаю.

Вельмі складанага ўзору перабіраны зялёна-белы дыван Валя раскладвае перада мною.

— А паглядзіце яшчэ вось гэты, і вось гэты... Які найпрыгажэйшы, як вам здаецца?

На канапе вырастае гара дываноў, адзін другога прыгажэйшы. Вочы разбягаюцца ад вострых колераў, якія спраўнай рукою павязаны ў вясёлкавыя букеты, палосы, ружы, макі.

— За жыццё я ўжо можа з 60 дываноў выткала. У людзі пайшлі. А гэтыя дзеці просяць пакінуць для іх, нават спрачаюцца, каму які. Але ўсе згодныя, што ўсе вельмі прыгожыя.

У Валі трое дзяцей. Усе дарослыя. Вучацца, працуюць. Дачка Крыся з Меляшкоў даязджае на працу ў Беласток. Але ўсе дзеці, прывучаныя да працы на гаспадарцы, дапамагаюць бацькам.

А гаспадарка ў Дарашкевічаў не малая: і каровы, і свінні, і збожжа, і трускалкі. Нядаўна Валя з мужам (дарэчы, ён доўгі час быў вясковым краўцом, шыў нават мужчынскія касцюмы, а цяпер займаецца выключна гаспадаркай) вырашылі пасадзіць яшчэ 1000 карчоў парэчак.

— І гаспадарка, і беларускі гурток, і тканне дываноў, і пункт скупкі, ды яшчэ і тры старэйшыя жанчыны пад пастаяннай штодзённай апекай — як вы ўпраўляецеся з усім? — пытаюся.

— Усё гэта звычайная праца, а падапечных узяла — бо я ж сястра ПЦК, умею дапамагчы. Тым больш, што гэта адзінокія жанчыны і без дапамогі не абыдуцца. Работы хапае. Але найгорш, калі здарыцца адной з іх захварэць. Так было нядаўна з бабкай Марцінчыкай. Тады і доктара трэба выклікаць аж з Гарадка, і па лякарства з'ездзіць. Тады ўжо ўсё іншае трэба кідаць.

Але Валя вось так дапамагае старым людзям ужо сем гадоў. І яе энергіі на ўсё хапае.

— Я яшчэ хусткі ваўняныя раблю на прутках. Вось паглядзіце, падабаецца? — Валя вымае з шафы амаль закончаную белую хустку з вясковай воўны. Нітка тонка спрадзеная, узор у традыцыйную на Беларусі касую клетку, вырысаваны пустымі вочкамі. Такая хустка навявае ўспамін з дзяцінства, вельмі ж яна свойская, родная. Хоць цяпер зноў такія хусткі модныя, можа трошкі прыхарошаныя па-гарадскому.

Рытуал ткання дываноў пачынаецца ў Меляшках значна раней, чым само тканне. Трэба ж напрасці нітак, нафарбаваць іх патрэбнымі колерамі, падабраць узор. Практычна, жанчына да гэтага рыхтуецца ўвесь год. А тканне — гэта толькі ўжо сам акт тварэння мастацкага твору, якім за кожным разам з'яўляецца гэты беларускі дыван.

Для Валі і яе сяброўак — занятак пры кроснах, з пруткамі — гэта праца, хоць можа не зусім такая, як на гаспадарцы, іншая, але ўсё ж праца. А вось сустрэчы ў беларускім гуртку — гэта ўжо адпачынак, а выступленні — сапраўднае свята.

Меляшкоўскі гурток, як аўтэнтычна народны, здымаўся нават у фільме Тамары Саланевіч „Трыптык нарвянскі". Там яны паказвалі свае „Дажынкі" — на полі жалі сярпамі, спявалі народныя песні, пад вокам камеры бялілі сапраўднае самаробнае палатно, яшчэ матчына цэлыя скруткі.

Усё гэта для захавання памяці аб былым, аб колішнім, якое хоць яшчэ існуе, але ўсё далей адыходзіць у нябыт, разам з адыходам старэйшага пакалення, людзей, для якіх усё гэта было патрэбай будзённага жыцця і натхнёнага сэрца.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

# ВАРШАЎСКІ КЛУБ ЗАПРАШАЕ!

Набліжаецца пачатак новага асветнага года ў варшаўскім клубе БГКТ. Мінае ўжо 30 гадоў ад таго часу, калі Янка Анісэровіч распачаў лектарскую дзейнасць сярод варшаўскіх беларусаў. Стала яна пастаяннай пазіцыяй у праграме працы Варшаўскага аддзела.

За ўсе тыя гады асветнай дзейнасці не злічыць ужо, колькі цікавых людзей прайшло праз наш клуб і колькі розных тэм абмеркавана на гэтых сустрэчах. Для прыкладу: мінулы асветны год пачаўся сустрэчай з галоўным рэдактарам тыднёвіка „Літаратура і Мастацтва" Анатолем Вярцінскім. У сакавіку 1989 г. наведаў нас рэдактар „Нівы" Віталій Луба. Прысутныя цікавіліся ўмовамі працы рэдакцыйнай калегіі, праблемамі, звязанымі з распаўсюджваннем нашай газеты, і г.д. Чарговымі дакладчыкамі былі Ю. Туронак, Я. Міpановіч, Д. Шатыловіч, М. Шаховіч, Ф. Амельяновіч.

Адбыліся таксама цікавыя сустрэчы з сябрамі з БССР. 5 сакавіка клуб наш наведала 10 прадстаўнікоў асветы з Беларусі. Між імі быў паэт Леанід Пранчак. Прысутныя ў клубе з зацікаўленнем слухалі яго вершы. Госці расказалі нам аб умовах асветнай працы, аб адраджэнскім руху беларускай нацыі. Клуб наш адведвалі часта і людзі з-за мяжы, якія былі ў гасцях у Варшаве або праездам.

Усіх ахвотных наведаць наш клуб сардэчна запрашаем! На гэты раз пачнем сустрэчай з пісьменнікам Сакратам Яновічам. Запрашаем 26 кастрычніка ў 18 гадзін усіх членаў і сімпатыкаў на вул. Старасцінскую 1Б у Варшаве (даезд аўт. 112, 130 і 168 да вул. Ракавецкай).

**А. Анішэўская**




## ПРЫКРАЕ НЕПАРАЗУМЕННЕ

У карэспандэнцыі Таццяны Антонавай „Па Беласточчыне" („Голас Радзімы", № 33 ад 17 жніўня 1989 г.) у фрагменце адносна святкавання студэнцкага Купалля ў Супраслі паявілася даволі прыкрая для нас, студэнтаў, памылка. З тэксту адназначна вынікае, што студэнты нанялі дом сям'і Латышонкаў за грошы, як нейкую карчму, дзе можна з'есці і выпіць. Зразумела ж, не прыпісваем гэтага непаразумення прадузятасці Т. Антонавай, а хутчэй за ўсё мноству ўражанняў, які не дазволіў аўтарцы ва ўсім падрабязна сарыентавацца. Адчуваем і сваю віну ў гэтым непаразуменні, паколькі мы не парупіліся паінфармаваць замежную карэспандэнтку належным чынам. Сям'я Веры і Юркі Латышонкаў ужо чацвёрты раз дае (менавіта — дае дарма) у распараджэнне беларускім студэнтам свой дом над рачулкай Супраслю дзеля адсвяткавання Купалля. Мала таго, нягледзячы на агромністыя клопаты, спадарства Латышонкі заўсёды рыхтуюць удзельнікам святкавання цудоўны пачастунак. Так было і ў гэтым годзе. Пра сёлетняе святкаванне Купалля мы пісалі на студэнцкай старонцы „Прысутнасць" („Ніва", № 31 ад 30 ліпеня). Відаць, Таццяна Антонава не чытала яе.

**Сябры з БАСа**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Нэлі Тулупава

### ШАЛІК

Буду ў садзіку старацца
І сама на ўроку працы
Цёплы шалічак звяжу,
Дома бабцы пакажу:
— На, бабка Анюта,
Шыйку сваю хутай!
Шалічак звязала,
Бабцы паказала.
Бабка падзівілася:
— Ах ты, страказа!
Мо мяне навучыш
Шалікі вязаць?

### КАША

Кашу я зварыла,
Не перасаліла,
Маму, тату і бабулю
Кашай накарміла.
Елі і хвалілі:
— Малайчына, Ліля!
— Ешце, — я ім гавару, —
Я яшчэ вам навару!

### УРОК

— Зараз вывучым урок —
Пералічым мы сарок:
— На бярозе дзве сядзяць,
Над сцяжынкай тры ляцяць.
А ўсіх разам будзе — пяць!



*Цеплыня сэрца ў халодны асенні дзень. Фота Л. Пільскага.*

Андрэй Выдмінскі

## Пошукі

**(Урывак з кнігі „Як я адкрыў Амерыку“. Пачатак у папярэднім нумары.)**

Была абсалютная цемень, калі я адкрыў вочы. Прайшло некалькі хвілін, пакуль я пачуў на нагах нешта цяжкае. Рукою спрабаваў даведацца, што гэта такое. Натрапіў на паломаныя дахоўкі і кавалкі тынку. І толькі пад гэтым намацаў нейкую шырокую дошку. Усё яшчэ нічога не бачачы, я выцягнуў гэтую дошку з-пад друзу і падцягнуў калені ўверх. Вочы паволі прызвычайваліся да цемры. Але я не ведаў, дзе знаходжуся. Раптам я заўважыў сярод друзу цела з доўгімі светлымі валасамі. На момант замёр. Адчуў, як мае валасы ўстаюць на галаве. Я крыкнуў і зноў страціў прытомнасць.

На гэты раз трывала гэта карацей. Нехта трымаў мяне за руку і шаптаў дзіўнае слова: хільфэ. Паволі я павярнуў галаву туды, адкуль даходзіў голас.

— Экі, гэта ты? — няўпэўнена запытаў я.

— Віцька! — яшчэ мацней сціснуў ён маю далонь. — Віцька... — дадаў расслабленым голасам.

— Што здарылася? Дзе мы?

— Заламалася падлога, — Экі паказаў на шэрую лямпу, якая вісела над нашымі галовамі.

Кавалкі дошак даходзілі да кучы друзу, звісаючы. Але ад-

**(Праціг на стар. 10)**



**Войтэк Томчук з Дубяжына прыгожа спявае беларускія песні. Фота Я. Чэрнякевіч.**

Алена Рудко

## Чорныя туфелькі

Галіна ніколі не забывала той эпізод з далёкага дзяцінства. Але каб і думала пра яго часта — таксама не скажаш. І таму дужа здзівілася, калі сёння, на пятым дзесятку пражытых гадоў прысніліся ёй тыя маленькія чорныя туфелькі...

А было тэта даўно. Галіна і Стася вучыліся ў пятым класе. У Стасі былі тата і мама, дзве старэйшыя сястры і брат. Жылі не ў беднасці, хаця наўрад ці можна было назваць багатымі тыя пасляваенныя гады. У Галіны тата памёр, калі ёй было чатыры гады. А за тыдзень да яго смерці згарэла іх хата, і ў ёй усё-ўсё, што было. У той дзень людзі паехалі ў суседняе мястэчка ў касцёл: быў дзевятнік, свянцілі зёлкі. А іх хата стаяла ў кіламетрах двух ад вёскі. На папялішчы засталася маладая, 35-гадовая ўдава, яе, Галініна маці, з шасцю малымі на руках. Старэйшай сястры было 14 гадоў, малодшаму брацяку — усяго два. Як тады выжылі, цяпер і зразумець цяжка. А тады... Рады былі кавалачку хлеба. Зведалі і суп з гірсай, і хлеб з мякінай (ой, як жа ён „рос“ у роце — не праглынуць). Але было весела, дружна, хай сабе і холадна, і галодна. Была з імі мама, добрая, разумная, шчырая, працавітая. Забывала пра сябе, працавала дзень і ноч, каб пракарміць і адзець-абуць шасцярых. І дзеці разумнелі, дапамагалі, рабілі ўсё, што маглі, каб аблегчыць жыццё маме.

У школу бегалі басанож да позняй восені, а вясною — як толькі сыдзе снег.

Калі ж Галіна з пачатковай школы перайшла ў сярэднюю, у мястэчка, стала сарамецца: тут ужо хадзілі абутыя. А дзе ўзяць той абутак? Адкуль браліся тыя старэнькія, абадраныя паўбаціначкі са шнуркамі? Але ж абутак!

І вось аднойчы, ідучы са школы, Стася раптам запрапанавала:

— Вазьмі мае туфелькі; а я паспрабую твае абнавіць.

Упіралася Галіна доўга, не прывыкла карыстацца чужым, ды яшчэ бясплатна. А Стася настайвала, а нарэшце прысароміла:

— Брыдка хадзіць у такіх страшных туфлях.

Тыя Стасіны, чорненькія, бліскучыя, з раменьчыкам на пад'ёме, былі якраз Галіне па назе. Хораша!

А праз два дні Стася аддала Галіне яе ўласныя. Дзе толькі і як яна ўхітрылася, але туфелькі не можна было пазнаць: чорненькія, як новыя. Пазней Галіна часта думала-гадала, ці сама Стася ці бацькі яе параілі ёй так зрабіць?

А восенню таго ж года Галіна з мамай пайшлі ў журавіны. Недалёка, кіламетры за два. Ужо перад адыходам дамоў мама неяк машынальна глянула ў бок сваёй хаты і жахнулася: валіў чорны дым. Галіна ўбачыла, як спалатнеў мамін твар. Яны пабеглі





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ДЫСПУТ

— Ка-хан-не! — нараспеў паўтарыла суседка Кухальская. — Гэта такое светлае пачуццё...

— А дзе яно зараз, тое пачуццё, — перабіў маладую жонку Кухальскі. — Ты маю кашулю назаўтра падрыхтавала?

— Што яны гавораць? — спытаў у мяне Сандалевіч.

— А... нічога талковага, — адказаў я.

— Дыспут пра каханне. Вось учора я чытаў нататкі псіхолага...

— Каго? — не пачуў Кухальскі.

— Псіхолага, — паўтарыў я. — Дык ён піша, што ад добрай жонкі муж ніколі не ўцячэ.

— Добрая справа бракам не бывае, — раздаўся раптам голас халасцяка Карабелава.

— Падтрымліваю, — зарагатаў Сандалевіч.

— Чаго ён рагоча? — пацікавілася Кухальская, аднак тут закрычала гэта істэрычка Бабеліна з чацвёртага паверха:

— Ну, што за людзі! Што за суседзі! Дасце вы нарэшце заснуць?

— Добрай ночы! — пажадаў я сваім суседзям і схаваў галаву пад падушку: усё-такі гэта буйнапанельны дом, а не прыватны сектар!

**Вячаслаў Гілевіч**
(са зборніка „Крышталёвая душа")

# НІЎКА



— Без натуршчыцы маляваць не магу...

# АФАРЫЗМЫ

Чым жа ёсць чалавек у прыродзе? Нічым перад бясконцасцю, усім перад нябытам, сярэдзінай паміж нічым і ўсім.

*

Гаварыць праўду — карысна для тых, каму яе гавораць, але некарысна для тых, хто яе гаворыць, бо прыцягваюць да сябе нянавісць.

*

Калі злосць мае рацыю на сваім баку, тады робіцца вельмі ганарыстай.

*

Сіла. Не мае яна ніякай улады ў свеце вучоных; яна валодае толькі ўчынкамі, а не думкамі.

**Блез Паскаль**

— * —

Мясцовы музей купляў розныя старыя прадметы і габравянін прынёс прадаць свае старыя боты. Калі адмовіліся купіць гэты „экспанат", уражаны габравянін сказаў:

— Але ж гэта сапраўды незвычайныя боты. Падчас першай сусветнай вайны насіў іх мой бацька як боты з халявамі. Вярнуўшыся з вайны, аддаў іх мне і я зрабіў сабе туфлі. Затым мая жонка насіла іх як тапачкі. Далей гуляў імі сын, пускаючы лодкі на сажалцы. Калі пачалася другая сусветная вайна, я зноў стаў іх насіць. А вы гаворыце, што гэта не каштоўны прадмет.

### НЕ ЗАЎСЁДЫ

— Раскоша, як шчупаку ў возеры.

— Калі не наплыве мінеральных угнаенняў.

**Браты Бароўкі**
(з кнігі „Кубік Рубіка")

### ДАПАМОГ

— Ратуйце, доктар!

— Што такое?

— Прыйшла да вас я з галавою.

— Годзе, годзе. Без галавы да нас яшчэ не ходзяць.

**Мікола Грышан**

### ЖАДАННЕ

Бацька звяртаецца да Янкі:

— Чаго ты хацеў бы наймацней?

— Хацеў бы нарадзіцца ў часы Баляслава Хробрага.

— Чаму!

— Бо не трэба было б вучыцца пра тое, што было потым.

**Міма нас!**

Шлюб як кніга, у якой першы раздзел — гэта паэзія, астатняя — проза.

# КРЫЖАВАНКА З УСМЕШКАЙ

**Упоперак:** 1) яшчэ адна прычына прыйсці на работу дружна і своечасова, 6) гарачы напітак, 8) вядучы мост, 9) два чобаты, 10) такая цудоўная дэталь у вершы і такі нязладжаны паказчык у рабоце, 11) караняплод, які з даўніх часоў вырошчваўся на Беларусі метадам самейнага падраду, 12) цяжкі гальштук, 13) абшар для бяспечнага падарожжа, 15) частка абутку, у якой гарантыі застацца цэлай, пабываўшы на вяселлі, не застаецца, 18) адзін з самых даходных відаў непрацоўных даходаў, 19) востры прадмет, на які абавязкова наткнемся, калі прыйдзем у дзень нараджэння жонкі без букета кветак, 20) апрацоўка мелодыі, 27) машына, што арэ як вол, цяжкая як слон, а рухаецца як чарапаха, 28) прыёмы блізкія да баявых для нармалізацыі абставін у дзень палучкі, 29) палеская дзяўчына, якая не насіла бялізну ў прадзіно, а мыла яе на рэчцы, 30) народны музычны канструктар, 31) шмат адміністрацыйных работнікаў нашага ўпраўлення.

**Уніз:** 2) від баявых дзеянняў ля акенца касы ў дзень палучкі, 3) дакумент гістарычнай важнасці, 4) неабгрунтаваны довад аб несвоечасовым прыходзе з работы, 5) спосаб-мара лайдака здаць дрэнна выкананую работу, 6) прафесійная зладзейка, 7) квартэт пасля дабаўкі, 13) адна з праяў закона цягацення, 14) атмасферныя ападкі ў галаве, 16) колер твару начальніка пры размове з нямаслухмяным падначаленым, 17) інвентар, які нікому не ўдаецца схаваць у кішэні, 21) горб турыста, 22) глыбокая адтуліна, 23) адзінка выхаваўчай сілы, 24) дэфіцытная дэталь у галаве, 25) верная і вечная спадарожніца спорту, 26) хімічна-малекулярны састаў, які абавязкова ўзмацняе сваю рэакцыю ў час з'яўлення ўчастковага ў пад'ездзе.



**Васіль Гедзька**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

Адказ-заклік з крыжаванкі змешчанай у № 38: Не будзь скнарай і лянівым, падпішыся ўжо на „Ніву".

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Ірына Шымчук з Гайнаўкі і Віктар Сцепановіч з Мінска.

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### А ЦІ ЎСЕ ТЫЯ САДЫ ЦВІТУЦЬ

(народная)

А ці ўсе тыя сады цвітуць,
Што садзяцца, паліваюцца?
Ці ўсе тыя замуж ідуць,
Што любяцца ды кахаюцца?*

Палавіна тых садоў цвіце,
Палавіна асыпаецца.
Палавіна замуж ідзе,
Палавіна разлучаецца.

Былі ў полі тры крынічанькі
Любіў хлопец тры
дзявічанькі:
Чарнявую, бялявую,
Трэцюю русу кучаравую.

— Чарнявую ад душы люблю
А з бялявай абвянчаюся,
А з русаю кучараваю,
Ой, штовечар насміхаюся.

— Ці ж я табе не прыказвала
Як стаялі пад паветкаю:
„Не едзь, мілы, у далёкі край
Не застанеш мяне дзеўкаю".

— Не застану цябе дзеўкаю,
Так застану маладзіцаю,
Датуль цябе любіць буду,
Усё раўно вазьму ўдавіцаю!

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020